Маладзёвы Весьнік
Спэцыяльны выпуск
Травень 1998
Выданьне Маладога Фронту

# ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ ЗА КРАТАМІ

Ён быў схоплены 2 красавіка 1998 году ў г.зв. "сьвяточны" дзень яднаньня народаў Беларусі й Расеі. Але "сьвята" не атрымалася: беларуская моладзь з пагардай паставілася да акупанцка-здрадніцкіх "единений". Толькі на пляцы Я.Коласа былі людзі, якія прыйшлі зусім не весяліцца, а выказаць сваё абурэньне. У іншых пунктах "гуляній" народу не было ўвогуле.

Увечары гэтага ж дню Паўла разам зь яшчэ дзесяцю чалавекамі моцна зьбіўшы закінулі ў Савецкі раўс. На паседжаньне Маладога Фронту, якое мела адбыцца тым жа вечарам Павал ужо не патрапіў. Маладафронтаўцы пачалі працу безь яго. Пачалося змаганьне за Паўла.

У свае 21 год Паўлу ўдалося ачоліць дзеяздольную арганізацыю, якая аб'яднала



Працяг на стар. 2 →

## Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

24 лютага засуджаны на паўтары гады пазбаўленьня волі за надпісы "Жыве Беларусь!", "Я люблю Беларусь!". Адсядзеў ужо паўгады пад сьледзтвам. Выкінуты з унівэрсытэту.



## ЗАСУДЗІЦЬ НЯГЛЕДЗЯЧЫ!

Працягваецца зьняволеньне актывіста Маладога Фронту Аляксея Шыдлоўскага.

Суд вышэйшае інстанцыі адхіліў пададзеную апэляцыю. Маладафронтаўца перапраўляюць у калёнію ўзмоцненага рэжыму.

Падчас абвешчаньня пастановы ніводны з судзьдзяў ня здолеў падняць вачэй ад сталу. Трэба меркаваць, гэта сапраўды страшна — убачыць пастанову свайго лёсу ў годных вачох Аляксея. Нічога! Прачытаюць і на паперы.



← Пачатак на стар. 1

самых непрымірымых супраціўнікаў рэжыму. Безумоўна, ён — лідар. А лідараў, тым больш маладых, таленавітых і рашучых фашыстоўская ўлада ня любіць. Іх баіцца рэжым.

Таму была скарыстаная першая ж магчымасьць і Паўла абвінавацілі ні больш ні менш як у злосным хуліганстве. Яму не высоўвалі абвінавачаньне тры дні. Увесь гэты час некалькіх сяброў Маладога Фронту, што павінныя былі фігураваць у справе Севярынца ў якасьці сьведкаў, лукашэнкаўскія гестапаўцы прымушалі пацьвердзіць, быццам менавіта лідар МФ спаліў расейскі сьцяг і вырваў мікрафон у артыстаў, якія выступалі на пляцы Я. Коласа. Аднак ён не рабіў гэтага і сьведкамі могуць выступіць сотні. Павал Севярынец разам са сваімі сябрамі сьпяваў беларускія песьні. Гэта — злачынства. Паводле закону акупанта.

За час вулічнага змаганьня за краты траплялі самыя розныя людзі і паводзілі сябе, натуральна, па-рознаму. Павал адмовіўся без адвакату нават назваць сваё імя. Ён трымаецца й паводзіць сябе гэтак, як лічыць патрэбным, а не так як хоча рэжым. Не зважаючы на варункі, Севярынец не патурае беззаконьню. Гэта й ёсьць паказьнік нутраное мужнасьці. Бо ёсьць мужнасьць паказальная, а ёсьць тая, што йдзе ад нутраных якасьцяў чалавеку, з глыбіні ягонае душы. Павал валодае менавіта такой — сапраўднай і непахіснаю.

Абараняць маладзёвага лідара ўзяўся быў добра вядомы ня толькі ў Беларусі адвакат Гары Паганяйла. Але лукашэнкаўскія ўлады спачатку адмовілі яму ў магчымасьці сустрэцца з падабронным, а днём пазьней увогуле адхілілі яго ад справы, аргумэнтуючы тым, што сп. Паганяйла ня мае беларускае ліцэнзіі (раней меў, але адабралі за праваахоўчую дзейнасьць), а расейская, маўляў, ня дзейнічае. Ну ды зразумей іх цяпер: вы ж, здаецца, аб'ядноўваліся?

Зараз інтарэсы Паўла Севярынца прадстаўляе сп. Ігар Дудараў.

Відавочна, што робіцца ўсё магчымае дзеля таго, каб расьцягнуць сьледзтва. Сьледчы Голубеў нахабна заявіў: займуся тады, калі будзе час. Але ня ў сьледчым рэч. Сьледчыя, пракуроры, судзьдзі ў палітычных працэсах — марыянэткі. Прысуды прыдумляюцца вышэй.

Сёньня з Паўла Севярынца, які скончыў школу з залатым мэдалём, піша вершы й апавяданьні, малюе карціны спрабуюць зрабіць небясьпечнага хулігана. Спрабуюць пераканаць, што адзіная магчымасьць ратаваць грамадзтва — трымаць за кратамі гэткую "небясьпечную" асобу, інакш кажучы, проста хочуць пераканаць, што чалавек нязгодны з фашыстоўскім рэжымам роўны рабаўніку ці забойцу.

Схема зразумелая: саджаюць лідара, і разьлічваюць, што астатнія павінныя зьнікнуць. Але тое, што жывое, дзеяздольнае немагчыма ані зьнішчыць, ані пахаваць. Маладафронтаўцы паранейшаму перакананыя — калі рэжыму ахвота забараніць МФ, гэта праблема рэжыму.

Паўлу ўдалося перадаць запіску з Валадаркі: "...*не*

Працяг →



← Пачатак

*забывайце Шыдлоўскага... Трымайце арганізацыю".* Ні слова пра тое, што цяжка, складана.

Роўна праз 16 дзён зьняволеньня Севярынец урэшце глынуў вольнага паветра. Увечары 18 красавіка муры Пішчалаўскага замку выпусьцілі яго са сваіх абдымкаў. На жаль, з сумнае нагоды — у Паўла памёр пляменьнік.

Аднак дзіўна: адкуль ува ўладаў такая спагадлівасьць і чульлівасьць? Зразумела: рэжым чакаў уцёкаў. Зловім на мяжы — будзе ўрэшце крымінал, уцячэ — таксама добра! Але яны памыліліся. Павал не зрабіў ім гэткага падарунку. *"...Людзі думаюць, што краты — гэта самае страшнае ў жыцьці. Але яны памыляюцца, самае жахлівае — згубіць сябе... Хвалююся за Радзіму, арганізацыю, сям'ю, сяброў. Больш нічога."* — патлумачыў Павал.

Празь семдзесят дзьве гадзіны ён вярнуўся за краты.

...Выступаючы на Устаноўчым Сойме Маладога Фронту Севярынец казаў пра падзеі 2 красавіка 97 г.: *"Няхай памятае той, у каго паднялася рука на маладую Беларусь: мы такога не даруем ніколі! Кожны, хто зьбіваў 2 красавіка, гэтым дубцом падпісаў сабе прысуд,— і рана ці позна кожны зь іх адкажа.*

*Мы павінныя прымусіць служкаў рэжыму шточас азірацца. Мы павінныя дыхаць ім у патыліцу і ўзьнікаць перад вачыма, і на кожным слупе будзе нашая ўлётка і ў іх пад нагамі будуць нашыя сьляды, а ў паветры, не даючы ім дыхаць будзе стаяць наш неўміручы вокліч: Жыве Беларусь!"*

Зараз усе маладафронтаўцы, уся беларуская моладзь, кожны беларус павінны спраўджваць гэтыя словы. Каб адказаць на ўдар, нанесены зьняволеньнем Паўла. Каб ня даць зламаць нашыя шыхты. Каб мець права звацца беларусам.

...Дзьверы Валадаркі зачыняліся за маладзёвым лідарам а шостай, у катэдры загучалі званы. Невыносна не хапала паветра. Быў напружаны вясновы вечар. Але за вечарам заўсёды прыходзіць ранак, нават калі паміж імі — ноч.

Мы вызвалім цябе, Павал!

**Алеся ЗАГОРСКАЯ**

# ЁН ВЕРНЕЦЦА

Лідараў не абіраюць. Яны прыходзяць у свой час, каб даць людзям штосьці важнае, доўгачаканае й неабходнае — ідэю, надзею, веру. Каб абудзіць мужнасьць і волю. Спачатку яны запальваюць самых актыўных. Потым далучаюцца іншыя. Гэтак узьнікае вера ды пачынаецца рух. Гэтак узьнік Малады Фронт.



Імя лідара заўжды стаіць побач з назвай арганізацыі. Павал Севярынец і Малады Фронт сёньня разам на старонках газэтаў — ня толькі апазыцыйных. Заўтра яны зоймуць суседнія радкі ў падручніках гісторыі. Але зьвязаныя ня толькі імёны — зьвязаныя лёсы. Чым большы уплыў набываў Павал сярод беларускае моладзі, тым важнейшай станавілася роля Маладога Фронту ў грамадзка-палітычным жыцьці краіны. Бой з рэжымам быў непазьбежны — бой сапраўдны, да перамогі. І ўлады спалохаліся, замітусіліся. З маркатлівым жахам гледзячы ў будучыню, ах, як яны хочуць працягнуць свой час. Так цягнуць час перад сьмерцю. Для іх ужо відавочна: іхны сумны фінал — там, дзе дзейнічае Севярынец. Ім трэба, каб на руках у Паўла былі кайданкі. Каб не прайграць. Нам трэба, каб ён быў вольны. Каб

Працяг →

# ХАПАЮЦЬ, БО НЕ ХАПАЕ МАЗГОЎ

Малады Фронт стаў сур'ёзнай небясьпекай для нашых уладаў. Усе мы памятаем працэс над Лёшам Шыдлоўскім ды Вадзімам Лабковічам. Але больш уразіў ня той факт, што хлопцаў столькі месяцаў трымалі за кратамі, а вынік гэтых "разборак" — Шыдлоўскага на год і шэсьць месяцаў адправілі ў калёнію ўзмоцненага рэжыму. Але й гэтага было мала... Таму што апазыцыйна настроеную моладзь нікольні не запалохалі гэтыя падзеі (бо, як вядома, увесь спэктакль быў разьлічаны менавіта на тое, каб адбіць ахвоту "бацьку" пярэчыць), а наадварот, зрабілі яе яшчэ больш рашучай. Вось, мабыць, і ўзьнікла патрэба знайсьці яшчэ адну "ахвяру". Ёй стаўся Вадзім Кабанчук. Хлопца пратрымалі на Валадарцы амаль пяць месяцаў. Дзеля чаго? Каб ахаваць грамадства ад "хулігана"? Ці каб пакараць нібыта за нейкія там парушэньні? Зламаць? Можа й так, але ў большасьці рабілася гэта зноўку ж для запалохваньня астатніх.

Але і на гэтым "чэсныя" ўлады не супакоіліся. Відаць, вырашылі браць па-буйному... Арышту Пашы Севярынца зьдзіўляцца ня трэба было. Зразумела, што палявалі на яго даўно, а падзеі 2 красавіка сталі толькі падставай для затрыманьня.

Ну, і што далей? Хапаюць жа таму, бо ў саміх не хапае клёпак. Па-першае, на тое, каб разумна кіраваць краінай. Па-другое, каб зразумець, што рэпрэсіі толькі памнажаюць шэрагі сьвядомых супраціўнікаў цяперашняга рэжыму. Такім чынам, ён, кажучы словамі барадатага клясыка марксызму, сам капае сабе магілу.

Сёньня цэрбэры рэжыму цешацца з таго, што ўдала "бяруць" маладых апазыцыянэраў. Але, як кажуць бабкі на вёсцы, хай бы вас узяло ды не адпусціла. Цяжка сказаць, наколькі дзейсныя гэтыя праклёны, але неаспрэчна тое, што ўсе злыдні рана ці позна атрымаюць спаўна.

**Вольга КЛАСКОЎСКАЯ**

← Пачатак

перамагчы.

Лідар вернецца. Тым хутчэй, чым больш сёньня зробіць кожны з нас дзеля вызваленьня Паўла з-за кратаў, ды значыць і Беларусі ад акупантаў. Зараз немагчыма быць пасярэдзіне — кожны альбо набліжае, альбо аддаляе вяртаньне Севярынца на волю.

Ён выйдзе іншы. Вязьніца заўсёды зьмяняе чалавека. Кагосьці ламае, кагосьці гартуе. Паўла зламаць няма як, і па вызваленьні ён не ўцячэ, не схаваецца, ня зьнікне. Ён вернецца. У свой Малады Фронт.

**Аляксей ЯНУКЕВІЧ**



Павал Севярынец нарадзіўся 30.12.76 г. у Вітэбску.

Скончыў школу з залатым мэдалём (кляса з мастацка-дойлідзкім ухілам). Адзін зь лепшых студэнтаў Геаграфічнага факультэту Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту (быў вымушаны перарваць навучаньне з-за ўціску з боку ўладаў).

З 18-ці гадоў займаецца публіцыстыкай, супрацоўнічаў з шэрагам рэспубліканскіх газэтаў і часапісаў. Ахвярна працуе дзеля пашырэньня й разьвіцьця беларускае культуры. Піша вершы, апавяданьні (апавяданьне "Рыхтуйся" было надрукаванае нядаўна ў "Нашай Ніве").

Ніколі не прыпыняў мастацкае дзейнасьці. Мы вырашылі падаць на старонках гэтага выпуску некаторыя малюнкі Паўла. Спадзяемся, што гэта дапаможа чытачу ўбачыць лідара Маладога Фронту ня толькі выбітным палітыкам, але й проста творчым чалавекам.

**РЭДАКЦЫЯ**











# 14 ТРАЎНЯ 17:00 ПЛЯЦ Якуба Коласа

Тут пачнецца акцыя ў падтрымку палітычных вязьняў. Адбудзецца шэсьце па праспэкце Ф. Скарыны да сквэру Я. Купалы (насупраць цырку), дзе адбудзецца мітынг і дабрачынны канцэрт з удзелам вядомых беларускіх гуртоў Новае Неба, Мясцовы Час, Уліс, NRM. МАЛАДЫ ФРОНТ запрашае ўсіх праявіць салідарнасьць з палітвязьнямі.



***...Няхай памятае той, у каго паднялася рука на маладую Беларусь: мы такога не даруем ніколі! Кожны, хто зьбіваў 2 красавіка, гэтым дубцом падпісаў сабе прысуд,— і рана ці позна кожны зь іх адкажа.***

***Мы павінныя прымусіць служкаў рэжыму штопчас азірацца. Мы павінныя дыхаць ім у патыліцу і ўзьнікаць перад вачыма, і на кожным слупе будзе нашая ўлётка і ў іх пад нагамі будуць нашыя сьляды, а ў паветры, не даючы ім дыхаць будзе стаяць наш неўміручы вокліч: Жыве Беларусь!***

**Павал СЕВЯРЫНЕЦ**

Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ
Адказны за друк: Ф. СКАРЫНА
Макетоўшчык: Page MAKER 6.5
Рэдакцыйная калегія: Павал СЕВЯРЫНЕЦ, Сяржук ПАЎЛЕНКА, Алесь АСІПЦОЎ, Аляксей ШЭІН, Яўген СКОЧКА, Віктар НЕСЕНЧУК, Цімафей ДРАНЧУК
Наклад: 299 асобнікаў
Тэл./Факс: 233-50-12

Рукапісы не рэцэнзуюцца, не вяртаюцца, а калі-некалі нават не друкуюцца. © Маладзёвы Весьнік